# ПАГОНЯ

Цэна №—1 аукс.

ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Цэна за абвесткі:

| | | |
|---|---|---|
| 1 стр. пэтыту на 2 стр. | . . . . | 3 мар. |
| „ „ „ 1 „ | . . . . | 5 „ |
| „ „ у тэксьце | . . . . | 8 „ |

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а. Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на 10 № № ўпярод — 10 зал. „ 5 „ „ — 5 „ Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

№ 17. Коўна, Чацьверг, 23 сьнежня 1920 г. Год І-шы.

# ГРАМАДЗЯНЕ!

Перад Бацькаўшчынаю не правініцеся тыя, каторыя ня ў сілах бараніць яе аружжам,—пазычце хоць частку сваей маемасці,

**купляючы Надзвычайны Заём.**

## Закон аб друку.

**А. аб выдавецтве і выданьнях дзеля продажы выданьняў.**

§ 1.

Асновываць друкарні, літаграфіі, металяграфіі і іншыя гэтага роду установы, чы набываць і карыстацца ручнымі дзеля друкаваньня прыладамі, можна ня іначэй, як за тры дні да аснаваньня чы набыцьця, паведаміўшы Местовага і Паветовага, чы толькі Паветовага, дзе каму прыналежэ, Начальніка.

§ 2.

Друкарні і ім падобныя установы, друкуючы якое-небудзь друкаванае выданьне, павінны трымацца правілаў, ўжо раней дзеля друку установленых (§§ 3 і 11).

*Увага*: § 2 не датычэ друкаваных выданьняў абыходу (візытовыя карткі, квіты, прэйскуранты і інш.).

§ 3.

Друкарні і іншыя гэтага роду ўстановы павінны вясьці ў сябе рэгістрацыю ўсіх друкаваных у іх твораў, якую Местовы чы Паветавы Начальнік можэ асабіста чы праз упоўнаважаную асобу спраўдзіць.

*Увага*: У рэестры пішэцца нумэр па парадку, назова твору, лік экзэмпляраў і час выйсьця з друку, пры чым пэрыадычныя выданьні натуюцца словамі „штодзеннае", „штотыднёвае" і імя, прозьвішча і адрэс асобы, якая дае друкаваць.

§ 4.

Асновываць кніжныя і наагул крамы друкаваных твораў, кніжныя магазыны і чытэльні і прадаваць творы друку, разносячы па вуліцах, па дарогах, можна толькі зрабіўшы заяву, за тры дні да адчыненьня крамы чы пачатку розьнічай продажы, Паветаваму і Местоваму, чы Паветаваму Начальніку.

*Увага*: Аб розьнічай продажы чыне заяву той, на чые сьродкі продажа прайзводзіцца.

§ 5.

Забараняецца ў кніжных крамах, чы ім падобных закладах трымаць і прадаваць, чы дарма распаўсюджываць творы друку, пры выдрукаваньні якіх ня былі выканаты правілы, дзеля друку установленыя (§ 11).

§ 6.

Заклады і асобы у §§ 1—4 пайменаваныя, якія ўжо мелі чыннасьць да гэтага закону, павінны, ў 7 дзен пасьля апублікаваньня яго у газэці „Летува", зрабіць аб сабе заяву Паветаваму і Местоваму, чы Паветаваму Начальніку.

§ 7.

У заяве патрэбна дакладна ўказаць адрэс закладу і асобы, заяву падаючай, а так сама імя і прозьвішча заведуючага закладу.

§ 8.

Вінаўныя ў невыкананьні 1—7 параграфаў гэтага закону падзьвергаюцца судзебным парадкам грашоваму штрафу да 1000 аукс.

§ 9.

Друкарні і іншага роду ўстановы павінны прэдставіць 4 экзэмпляры аддрукованага твору Начальніку места і павету, чы Паветаваму Начальніку і 3 экзэмпляры ў Міністэрства Народнай Асьветы.

### Б. Аб друку.

§ 10.

Творы друку могуць быць адначасовымі і пэрыадычнымі. Пэрыадычныя творы друку гэткія: газэты, журналы і ўселякія зборнікі арыгінальных і пэратлумачаных твораў; адначасовыя выдаюцца асобнымі нумэрамі, чы кнігамі пад аднэй назовай не раджэй 2 разоў ў год.

*Увага*: Пры выданьні дадаткаў да пэрыадычных выданьняў патрэбна выпаўніць тыя-ж фармальнасьці, як і пры выданьні іншых пэрыадычных твораў.

## Абвешчэньне Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці.

Згодна закону Дзяржаўнага Банка за № 490 аб Надзвычайным Займе дзеля патрэб Абароны Краю, Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці гэтым даводзіць да агульнага ведама, што 20 лістапада г. г. ва ўсіх банках і Казначэйствах Літвы—у Коўне, Аліце, Вількавішках, Сэйнах, Лаздзее, Троках, Кашэдарах, Ежэрэнах, Дусятах, Шаўлях, Ракішках, Посволе, Паневежы, Уцянах, Можэйках, Крэцінге, Таўрогэне, Расіенах, Кэйданах, Тэльшах, Вількаміры і Марыямполе—пачнецца продажа Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю.

Усе грамадзяне, жадаючыя набыць Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю, зьвертаюцца самі ці праз сваіх упоўнаважных у бліжэйшыя банкі і Казначэйства, ўносяць грошы (ня менш 50 аўксінаў) і атрымліваюць, па свайму пагляду, імянную ці не імянную квітанцыю з адметкаю ў ёй нумэра прэміі. Усе купляючыя Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка атрымліваюць процэнты ўперад за тры гады, па 3 аукс. 60 скат. у год з кожнай соткі, лічучы ад 1 чысла наступаючага месяца да 1 сьнежня 1923 года.

Усе грамадзяне, пасьпеўшыя купіць Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю да Травеня 1921 года, участвуюць у выйгрышы прэміяў, каторыя йдуць у гэткім парадку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адзін | выйгрыш | . . . . | 100,000 аукс. |
| Два | „ | . . . па | 50,000 „ |
| Дванаццаць | „ | . . . . „ | 25,000 „ |
| Пятнаццаць | „ | . . . . „ | 10,000 „ |
| Дваццаць | „ | . . . . „ | 5,000 „ |
| Сто пяцьдзесят | | . . . . „ | 1,000 „ |
| Тысяча | „ | . . . . „ | 500 „ |
| Дзьве тысячы | | . . . . „ | 200 „ |
| Дзьве тысячы | | . . . . „ | 100 „ |

Усяго выйгрышных нумэроў 5200 на агульную суму 2,000,000 аўксінаў. Кожныя 50 аўксінаў, пазычаныя Дзяржаўнаму Банку, даюць магчымасьць выйграць прэмію аднаго нумэра. Пазычаць могуць усе, хто толькі хоча і на чые захоча імя, ня выключаючы малых і няпоўналетніх.

Ад каго далёка Банк, або хто па якой-небудзь прычыне ня можа зайсьці ў Банк, можна пасылаць грошы па почце; атрымаўшы грошы з бліжэйшай почты, банк зараз жа прышле квітанцыю Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю.

Квітанцыі Надзвычайнага Займа прымаюцца ўсімі дзяржаўнымі ўстановамі і банкамі, як залог, а па жаданьню гэтыя-ж квітанцыі банк сахраняе дарма.

Хто ня мае гатовых грошай, а мае рэквізыцыйныя ордэры ці страціўшыя тэрмін боны Дзяржаўнага Займа, зараз-жа можа замяніць іх на квітанцыі Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка.

Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці спадзеецца, што ўсе грамадзяне і жыхары Літвы нямедля споўняць сваі абавязкі і як найхутчэй будуць купляць Надзвычайны Заём. Квітанцыі Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка пачнуць аплачваць 31 сьнежня 1923 года.

Міністр Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці **Гальваноўскі.**

Дырэктар Дэпартамэнту Дзяржаўнага Скарбу **Дульскі.**

## Добры знак.

Прыезд да Коўна Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі з Міністрам-Прэзыдэнтам п. Ластоўскім на чале і паразуменьне з гэтаю дэлегацыей Літоўскага Ураду вызвалі вялікае нездаволеньне сярод „польскіх дзеячоў“ у Вільне, выліўшаеся ў стацьце, зьмешчанай у газэце „Słowo Żołnierskie“.

Аўтор стацьці, з праўдзівай жаўнэрскай бравурай, дае волю сваей злосьці за тое, што Міністэр Беларускіх Спраў п. Семашко паразумеваўся з вышэйазначэнай дэлегацыей, і вылівае на голаву літоўскаго міністра цэлы паток польскіх „палітычна-дыплёматычных“ слоў.

Муха, кажуць людзі, кусаецца перад сьмерцьцю, і, як відаць, „польскія дзеячы“ у Вільні чуюць ужо свой канец: што прыйдзецца ім уцякаць з Вільні туды, скуль яны прышлі. Вось у чым прычына злосьці гэтых паноў.

Трэба адзначыць, што і бальшэвіцкае „Красное Знамя“ перад самым адходам бальшавікоў з Вільні, так сама кідалася на Міністра Семашко.

## Новыя прафэсыі ў Вільні.

Газэта „Litwa“ ад 25 XI і „Эльта“ ад 6 XII сьцьверджаюць, што вядомы па сваей паездцы да Варшавы таргаваць беларускай зямлёй Антон Луцкевіч выдае ў Вільні часопісь „Наша Ніва“, у якой праводзіць польскую палітыку ў Літве і Беларусі і з новай энэргіей выступае проці Літвы.

З прыходам у Вільню Жэлігоўскага забыўся п. Луцкевіч аб сваей „лояльнай к літоўцам рэзалюцыі“ і ў нападах на Літву апераджае ненавісных яму калісь Абрамовіча, Кржыжаноўскага, Замтоўта і інш.

Характэрыстыка гэтага „палітычнага дзеяча“, хвабрыканта „лояльных рэзалюцыяў“ для ўсіх акупацыйных уладаў Вільні, была ўжо надрукована ў „Пагоне“ пад назовай „Палітычны бандытызм“, цяпер толькі прыходзіцца сьцьвердзіць факт „новай прафэсыі“, узросшай на грунце частых зьменаў акупацыяў м. Вільні.

Поруч з гэтай прафэсыей Луцкевіча красуе ў Вільні яшчэ другая прафэсыя, састаячая ў тым, што падгародныя жыхары высьледжваюць усе склады і сьвірны і ў часе адходу акупантаў перад новымі-у гэтым перапалохе—рабуюць урадавыя тавары і такім чынам могуць праістнаваць паўгода, год—аж да новай зьмены акупантаў.

## Чарговая правакацыя.

Паразуменьне Літвы з Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі не дае спаць польскім імпэрыялістам, і яны ўжо прадпрымаюць цэлы рад працівамер. Мы ўжо ў другім месцы ўспамянулі аб нападзе польскай газэты „Słowo Żołnierskie“ на Літоўскага Міністра Д. Семашко з прычыны гэтага паразуменьня.

Цяпер ковенскі ворган польскіх імпэрыялістаў „Goniec Kowieński“ у № 27 (15—12—20 г.) падае вестку з Варшавы аб прыездзе туды „Беларускай дэлегацыі“, складаючэйся з паляка, беларуса і татарына дзеля ўручэньня французкаму прэдстаўніку адозвы, ў якой вымагаюць „На моцы актаў самаахвотнага далучэньня“ Беларусі да „Prześwietnej Rzeczypospolitej Polskiej“, дзе, па думкам творцаў гэтай адозвы, надта соладка адчувае сябе беларускае жыхарства.

Але нам добра вядома тая „прыхільнасьць“, з якою адносяцца польскія адміністратары да беларусаў, ад імя каторых „моляць“ нейкія паны „Prześwietłuju Polszczu“ прыняць „абездоленых“ беларусаў пад сваё крыло, і праліваюць кракадылавыя сьлёзы над тым, што творыцца нацыянальная самаахвотніцкая беларуская армія, якая пойдзе біць бедных палякаў: усе турмы і лагеры біткам набіты беларускім селянствам, голасна заявіўшым на ўвесь сьвет, што апека, чыя бы яна ні была, а асобліва польская, яму непатрэбна, што гэта апека выматала душу з беларускага народу, а таму ён хоча быць вольным, незалежным і свабодным ад усякай апекі.

Відаць, што гэтыя „delegaci“ пахожы на „тых беларускіх сялян у лапцях“, схвабрыкованых у Лёндане з польскіх эмігрантаў, каторых ў сваім часе вадзілі да Прэзыдента Францускай Рэспублікі, адзеўшы ў астаўшыяся з польскага аддзелу на ўсесьветнай выстаўцы 1900 г. лапці, сьведчыць на „ангельскай мове“ сваі жаданьні аб далучэньні ўсяе Беларусі да Польшчы.

Ці ня будзе сучасная дэлегацыя зложана з такіх самых беларускіх „сялян“, як і тамтэйшая. Добра шыюць паны-палякі, але, на іх жаль, белымі ніткамі па чорнаму...

Хоць паўстыдаліся-б, панове!

## Слава храбрым!

Асобная Беларуская рота, цяпер увайшоўшая ў склад Асобнага Беларускага батальёну, у часе нападу банд Жэлігоўскага на нашу Бацькаўшчыну, прыймала самае дзейнае учасьцьце ў баёх проці захватчыкаў, пры гэтым выявіла, як і раней, стойкасьць і храбрасьць, наносячы вялікі ўрон ворагу.

У адным з апошніх баёў ляглі сьмерцю храбрых стрэлкі роты—Сяргей Радзевіч і Станіслаў Семплінскі.

Няхай зямля ім будзе пухам! Яны споўнілі свой доўг прад Бацькаўшчынаю, якая іх не забудзе!

## Сумныя весткі.

З Вільні даходзяць да нас весткі аб звальненьні 30 пажарных са складу Віленскай Местовай Пажарнай Каманды, дзе яны праслужылі ўсю сваю моладасьць, патрацілі здароўе на пажарах, а вочы павыядаў ім дым. Слава аб віленскіх пажарных, храбрасьці іх у часе пажараў і прэданнасьці службе шырока разыходзілася па ўсяму краю, як за часоў царызму, так і нямецкай акупацыі, якія куды больш дбалі аб лёсе сталіцы Літвы, чым цяперашнія польскія агэнты: у інтарэсах апошніх-лепей спаліць Вільню, ніж аддаць яе Літве.

## Падгатаваньне „плебісцыту“.

„Літроста“ прыводзіць з „Rote Fane“ (ад 27 XI 20 г.). паведамленьне Беларускага прэс-бюро аб тэррары, пры дапамозе каторага палякі падгатаўляюць плебісцыт.

У Горадне зачынена газэта „Беларускае Слова“. Беларускія дзеячы арэштовываюцца і высылаюцца ў далёкія лагеры. Сялянам абяцаюць муку, насеньне, дзецям—адзежу, абы толькі галасавалі за Польшчу.

## Гэнэрал Булак-Балаховіч—палітык.

Гэнэрал Булак-Балаховіч, пасьля разгрому яго бальшавікамі, вярнуўся да Варшавы, дзе прэдстаўнікам расейскай прэсы заявіў, што, па яго думцы, бальшавізм у Расеі хутка ўпадзе.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

КОЎНА, Бел. пр.-б. На занятых палякамі ў сілу прэлімінарнай згоды беларускіх абшарах ідзе самаволя вайсковай адміністрацыі і паліцыі.

Беларуская прэса задушана. Дзеячы арэштованы: яны трымаюцца ў турмах і лагэрах у немажлівых варунках. Беларускія школы зьніштажаюцца ўселякімі спосабамі.

* * *

КОЎНА. Бел. пр.-б. У Чыкаго арганізуецца Цэнтральны Камітэт Амэрыканскіх Беларусаў, які будзе праводзіць арганізацыйную працу: зьбіраць ахвяры для Бацькаўшчыны, закладаць беларускія школы, будзе клапаціцца аб выданьні кніг на беларускай мове і г. д.

* * *

КОЎНА. Бел. пр.-б. У Жэнэву выехала беларуская дэлегацыя, якая складаецца: старшыня дэлегацыі—Прэзыдэнт Міністраў В. Ластоўскі, Міністр Справедлівасьці др. Цвікевіч, дыплёматычны предстаўнік у Нямеччыне др. Баркаў і сэкрэтар дэлегацыі—др. Аненштэйн.

* * *

КОЎНА. Бел. пр.-б. Жэлігоўскі разагнаў заложаную з вялікімі труднасьцямі беларускую гымназію ў м. Сьвіры.

У Беларускай гымназіі ў Вільні вучыцца больш як 400 вучняў, з каторых большасьць —беларусы. Навукі выкладаюцца ў беларускай мове.

Пад час нямецкай акупацыі ў Горадзеншчыне было 150 беларускіх пачатковых школ. У часе польскай акупацыі лік школ у 10 раз паменшыўся.

Цяпер урад Жэлігоўскага хоць афіцыяльна на забараняе адчыняць беларускія школы, аднак-жа ставіць, як перашкоду, столькі фармальнасьцяў, што гэта зусім не дае магчымасьці адчыняць новыя школы. Дзеля адчыненьня беларускіх школ „урад“ патрабуе пастановы сходу, але дзеля абгаварэньня хоць бы толькі патрэб школы сходка немагчыма без пазваленьня мейсцовых адміністратыўных уладаў, атрымаць-жа пазваленьне ніяк ня можна. Мейсцовыя жыхары—беларусы закладаюць школы самавольна, хоць за гэта ініцыатары бываюць заарэштованы польскімі уладамі.

* * *

КОЎНА. Бел. пр.-б. У Вільні перад касьцёлам сьв. Казьмера „Liga Robotnicza“ разьвешвае плакаты з сваею палітычнаю праграмаю, у якіх раней усяго кажа: „Рабочы! Калі хочаш, каб Вільня належала да Польшчы, зараз запішыся да „Związku Robotnikow“!

* * *

КОЎНА, Бел. пр.-б. У часе пабыту Літвіноў у Вільні местовы магістрат быў створаны з прэдстаўнікоў вялікшых мейсцовых народных гурткоў, у тым ліку і з беларусаў. Цяпер вярнуўся магістрат, зложаны раней, за часоў польскай акупацыі, праз „Zarząd Ziem Wschodnich“ і ўзяў у сваі рукі кіраўніцтва ўсімі інтарэсамі места.

* * *

ВІЛЬНЯ. Па весткам газэты „Litwa“ (ад 16. XII. 20 г.) ў Вільні ў апошнія дні ўпарта пашыраюцца погалоскі, што гэн. Жэлігоўскі нават ня думае падчыняцца пастановам камісіі Лігі Народаў і рыхтуецца ў хуткім часе да новага выступу проці літвіноў. З гэтай мэтай у Вільню падцягаюцца новыя сілы, інтэнсыўна праводзіцца мабілізацыя. Кіруючая Камісія йдзе проці плебісцыту і спешным парадкам падгатаўляе выбары да устаноўчага сойму „Сярэдняй Літвы“.

## Грамадзянкі Літвы!

Вашы сыны—Літоўскія салдаты—цяпер стаяць на фронце, абараняючы Родную Старонку ад чужаземных разбойнікаў. Яны пераносяць нязьмерны холад, трымаючы аружжо голымі рукамі і стоячы ў мароз на варце. Ад Вас нашы абароннікі чакаюць дапамогі: гатоўце рукавіцы, цёплыя шкарпэткі і пасылайце ў **Камітэт Нацыянальнай Абароны Літвы дзеля адсылкі на фронт.**

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕС, КОЎНА.